*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2018, № 11(33). Лістапад

## Падпольная дзіцячая антысталінская арганізацыя ў Слоніме

Са слонімцам Вячаславам Сцяпурам я пазнаёміўся ў другой палове 1990-х. Ён тады актыўна друкаваў у слонімскай прэсе артыкулы па гісторыі горада і пра незаслужана забытых землякоў, змяшчаў унікальныя фотаздымкі. Падоўгу размаўлялі. А летам 1998 года ён распавёў мне сваю гісторыю, пра падзеі першых пасляваенных гадоў у Слоніме. Сцяпура з такімі ж юнакамі стварыў падпольную групу, якая вырабляла і распаўсюджвала ў горадзе антысавецкія лістоўкі. Іх шукалі два гады і знайшлі. Не верылі, што дзеці (ім было па 12 гадоў) дзейнічалі самастойна, правяралі версію пра сувязь з беларускай падпольнай арганізацыяй “Чайка”, разгромленай у 1947-м.




Згадваючы пра некалькі месяцаў зняволення, Вячаслаў Фёдаравіч не мог стрымаць слёзаў. Пра тыя пакуты ён напісаў польскамоўныя ўспаміны, якія паказваў (верагодна, яны так і не былі апублікаваныя). У мяне ж захаваўся дыктафонны запіс гутаркі са Сцяпурам (ад 7 чэрвеня 1998-га), паводле якога і друкуюцца ягоныя ўспаміны.

Тады, у канцы 1990-х, я пісаў пра Вячаслава Сцяпуру ў “Газеце Слонімскай”.[1] Пра пасляваенную канспірацыю не згадваў — Вячаслаў Фёдаравіч не хацеў, гаворка ў публікацыі ішла пра яго кар’еру спартсмена і медыка. Адзінае, на што ўдалося атрымаць згоду — змясціць артыкулы пра ўдзельнікаў групы ў даведнік “Антысавецкія рухі ў Беларусі”.[2]

Вячаслаў Сцяпура памёр 13 студзеня 2012 года на 77-м годзе жыцця.

●Сяргей Ёрш

*Працяг на ст.3.*

## Была такая “Бацькаўшчына”

У Беларусі 1990-я гады былі неадназначныя: з аднаго боку нялёгкія ў эканамічным плане, з іншага — даволі цікавыя і шчаслівыя. Асабліва іх пачатак. Я тады працаваў у раённай газеце “Слонімскі веснік”. Рэдактарам газеты быў Сяргей Аляксандравіч Прасняк. Яго ўжо няма на гэтым свеце, няхай яму зямля будзе пухам. А тады ён жыў і ўзначальваў калектыў газеты.




Аднойчы я прапанаваў Сяргею Аляксандравічу выпускаць на старонцы раёнкі гісторыка-краязнаўчую старонку “Бацькаўшчына”. Рэдактар хадзіў-хадзіў, думаў-думаў і праз

*Працяг на ст.6.*

# Выбраны эскізны праект помніка Льву Сапегу

На конкурс, аб'яўлены Слонімскім райвыканкамам, былі прадстаўлены дзевяць праектаў помніка слонімскаму старосце, буйному дзяржаўнаму дзеячу Вялікага Княства Літоўскага Льву Сапегу (1557 — 1633). Іх можна было пабачыць у цэнтры культуры. 28 лістапада камісія пад старшынствам кіраўніка раёна Генадзя Хоміча выбрала пераможцу. Найлепшы праект прапанавалі скульптары з Мінска — наш зямляк Іван Міско, а таксама Сяргей Логвін і В. Пінін. Як адзначае "Слонімскі веснік", ён *"выдатна ўпішацца ў аблічча нашага горада".*

У дакуменце выканкама аб арганізацыі конкурсу месцам устаноўкі быў пазначаны гарадскі парк па Опернай вуліцы.* Аднак месяц таму прайшло выязное пасяджэнне па падрыхтоўцы да святкавання на Слонімшчыне Дня беларускага пісьменства, а таксама жыровіцкіх юбілеяў. У справаздачы "Гродзенская праўда" месцам усталявання назвала ўжо плошчу Леніна. Пра гэта ж піша і "Газета Слонімская".

Атрымліваецца, што ранейшыя планы былі зменены і гэта радуе. Шкада толькі, што пакуль нічога не чуваць пра перайменаванне плошчы Леніна. Гэта быў бы яшчэ адзін выдатны падарунак слонімцам да свята. Але часу да верасня 2019-га дастаткова. Чыноўнікі маглі б пацікавіцца грамадскай думкай на гэты конт.

●Сяргей Ёрш





№ 40 (69). Слонім. 1 — 7 кастрычніка 1998 г. Незалежны гр

ГОРАД

## ЛЬВА САПЕГУ "ПРАПІСАЛІ" НА ПЛОШЧЫ ЛЕНІНА...

**Нядаўна гарвыканкам прыняў рашэнне ўстанавіць у скверы на плошчы Леніна помнік слонімскаму старосце Льву Сапегу.**

Як ужо пісала "ГС", у сакавіку гэтага года гарадскія ўлады падтрымалі ініцыятыву групы гараджан аб пабудове і ўстаноўцы ў Слоніме гэтага помніка. Аднак тады яшчэ не было вызначана для яго месца. Нагадаем, што канцлер Вялікага кня-

Уладзіміра Казырновіча, цяпер рыхтуецца праектная дакументацыя. Як вядома, праект пабудовы помніка фінансуе рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Сапегі. Прадстаўнікі гэтай грамадскай арганізацыі прысутнічалі

Слонімскія ўлады яшчэ 20 гадоў таму вырашылі, што найлепшае месца для помніка — плошча Леніна. Артыкул з «Газеты Слонімскай».

**Ёрш С. Помнік Льву Сапегу ў Слоніме будзе, але ці ўдала выбралі месца? // Слонімскі край, 2018, № 10. Кастрычнік. С. 3.*

УСПАМІНЫ

# Падпольная дзіцячая антысталінская арганізацыя ў Слоніме

*Працяг, пачатак на ст.1.*

Я нарадзіўся 29 сакавіка 1935 года ў вёсцы Шылавічы на Слонімшчыне. Бацька мой, Фёдар Сцяпура, 1900-га года нараджэння, паходзіў з Серабрышча пад Моўчаддзю.[3] Пры польскай уладзе ён скончыў настаўніцкую семінарыю ў Слоніме і працаваў настаўнікам у вёсках Шылавічы, Глоўсевічы. Бацька быў беларус, а маці мая — полька. Яна скончыла курсы пры кляштары ў Слоніме, на якіх рыхтавалі да настаўніцкай працы. Яе бацька, а мой дзед Эдмунд Брэнэк скончыў сельскагаспадарчую акадэмію ў Варшаве, працаваў у каралеўскім замку, пакуль яго не забраў граф Пуслоўскі ў Альбярцін.[4] Дзед займаўся аранжарэяй, паркавай зонай, а бабуля вучыла графскіх дзяцей.

Бацькі ўзялі шлюб у 1935-м. Спачатку жылі ў вёсцы, а ў канцы 1930-х пераехалі ў Слонім. У першы клас я пайшоў у беларускую школу пры немцах, у 1943 годзе. Тады ўсе школы ў Слоніме былі на беларускай мове. Вучылі нас на беларускай лацінцы. А ў 1944-м, пры савецкай уладзе, фактычна зноў з алфавіта давялося пачынаць, ужо на кірыліцы, зноў у першы клас пайшоў.




Вучні першага класа беларускай школы ў Слоніме са сваім настаўнікам, 1943 г. Сярод іх Вячаслаў Сцяпура.



Вячаслаў Сцяпура (справа), 1948 год.

Ініцыятарам стварэння падпольнай групы быў Януш Дыбкоўскі, паляк.[5] Яго бацька быў капітанам польскага войска, верагодна, загінуў у Катыні. У 1944-м Янушу было 14 гадоў (насамрэч ён быў 1928 года нараджэння — СЁ). А мы былі малодшымі. За што збіраліся змагацца? І за Беларусь, і за Польшчу. Савецкі рэжым нам не падабаўся. Дыбкоўскі нічога не казаў, ці ёсць старэйшыя, якія таксама змагаюцца... У хляве я хаваў пісталет (парабэлум). А перад арыштам, са страху, выкінуў яго ў канал Агінскага з моста каля лазні. І добра, што так зрабіў. Бо каб знайшлі, бацьку далі б 5 гадоў турмы.

Мы дзейнічалі з 1946 года: я, Юра Татарэўскі і Зютэк Жамойда (яны былі 1934 года нараджэння). Распаўсюджвалі ў Слоніме лістоўкі. Пісалі ад рукі на рускай мове. Вечарам збярэмся, панапісваем: *"Смерть большевикам! Свободу народу!"*. Рабілі па 5-10 лістовак і пасля па горадзе іх хлебам наклейвалі. Святла [на вуліцах] у горадзе не было, гэта нам спрыяла. Раніцай ужо па горадзе гэтыя лістоўкі зрывалі... Памятаю, што ў адной лістоўцы мы пісалі: *"Убили Анну Король — поубивают всех"*.[6] У нас пасля яе забойства гэтая тэма "выскачыла". Адзін раз мы пячатку зрабілі — на паперкі ставілі. Там былі толькі дзве літаркі: "ПК" г. зн. "Падпольны камітэт". Матэрыялы гэтыя дзесьці ў КДБ ляжаць.[7]

Мы ў той час адчувалі, што рабілася: мужыкі стагналі, плакалі. Тады калектывізацыя прайшла. Хадзілі чуткі пра антысавецкіх партызанаў, пра "чорную кошку", пра "балахоўцаў", але сувязі мы не мелі. Прыгадваю, што дзесьці ў 1946 годзе быў замах, як казалі

# Падпольная дзіцячая антысталінская арганізацыя ў Слоніме

*Працяг, пачатак на ст. 1, 3.*

“чорнай кошкі”, на начальніка слонімскага гэбэ. Жыў ён на Студэнцкай вуліцы. Раніцай пабеглі туды. Каля дома начальніка на зямлі ляжалі двое забітых мужчын ў целагрэйках.

Знайшлі нас па почырку. Бацька не ведаў, чым мы займаемся, але аднойчы знайшоў лістоўкі. Прыйшоў і на мяне накрычаў. І дзесьці ў лютым 1948-га мы з гэтай справай “завязалі”. Бацька ведаў, што з пачатку 1948 года кагосьці шукаюць, у школе правяраюць почыркі дзяцей ад 5-га да 10-га класа. А я тады быў у чацвёртым класе. Прыехаў эксперт. Яны разумелі, што гэта вучні лістоўкі пішуць. І знайшлі па почырку Татарэўскага, які вучыўся ў пятым класе.

Першым узялі Юру Татарэўскага. Раніцай 23 красавіка 1948 года каля яго хаты спынілася машына. Вадзіцель у ёй корпаўся, нібыта, яна зламалася. А Юра якраз ішоў у школу. *“Мальчик, помоги подтолкнуть. А ты куда, в школу? Ну иди, подвезём!”* — сказаў вадзіцель. І адразу павезлі ў *МГБ*. А ў абед узялі мяне. Хутка Юра “раскалоўся”... Яны прыйшлі за мной падчас уроку. Я ў дзверы кінуўся, а там стаяў адзін, ён мяне схапіў.

Прывезлі ў *МГБ*. У іх былі мае лістоўкі і лістоўкі, якія пісаў Юра. Ён здаўся адразу, а я кажу: “Я не ведаю нічога, адчапіцеся”. А яны з сумкі сшыткі ўзялі, зверылі почырк. “Ну, я...”, — кажу. *“А кто вас учил?”,* — пытаюцца.

Там ставілася пытаньне: або я, або ён. Асноўным я быў, Юрка мяне выдаў. Януша Дыбкоўскага ўжо не было, на той час ён ужо загінуў. Гэта трагічная гісторыя. Мяне тады Бог ўратаваў. Гэта было ў пачатку жніўня 1944-га (насамрэч, 7 кастрычніка — СЁ). Каля моста праз Шчару каля касцёла св. Андрэя было пакінута шмат снарадаў. І мы з хлопцамі хадзілі з іх порах даставаць. Аднойчы я выпадкова не пайшоў. Прыгнаў карову з пашы ў 11 гадзінаў і хацеў бегчы да хлопцаў, а маці не пусціла, сказала, каб накапаў бульбы. Пайшоў я на наша поле каля цяперашняга маслазавода, раптам чую: выбух. Пасля даведаўся, што з Дыбкоўскім былі яшчэ тры хлопцы. Усе яны падарваліся і загінулі...



Помнік Сталіну ў цэнтры Слоніма, 1953 г.

Зютэк, які з намі сябраваў, усё ведаў, у яго таксама наган быў. Але ён з’ехаў са Слоніма, паехаў дзесьці ў Мінск, у нейкую вучэльню. І мы разыйшліся. Пасля ён жыў недзе ў Расіі.

Калі б мне было 13 ці 14 гадоў, давялося б адказваць, была б “дзясятка”. А так я быў замалы. Тым больш, апошнія лістоўкі з’явіліся да 20 лютага 1948 года, калі мне было яшчэ 12 гадоў. І ўсё ж я прайшоў праз “савецкае гестапа”...

Яны мяне чатыры месяцы трымалі, патрабавалі, каб сказаў, хто навучыў (*“Кто учил? Кто учил?!”*). Паставяць на цэлую ноч стаяць — стаіш. Але ногі падкошваюцца... І білі, і плявалі, і маці прыводзілі...

Адчуваў — не вытрымаць. Пачаў выдумляць легенды. Выдумаў іх аж тры. Легенду якую скажу, яны правяраюць, прыходзяць да высновы, што маню і зноў за мяне бяруцца. Спачатку я гаварыў, што мяне нейкі дзядзька з Сурынкі[8] вучыў. *“Знаешего?”,*— пытаюцца. “Знаю”, — кажу. *“Поехали!”.* Прыехалі ў вёску, а дзе я яго там знайду, калі яго не было?!

Я гаварыў, што мы ў серады сустракаліся на дамбе канала Агінскага ў Слоніме. У бліжэйшую сераду яны наставілі міліцыянераў ад аднаго моста да другога. Я хаджу, чакаю, каго — не ведаю. Ну а што я мог прыдумаць?

Вось тады на дамбе я хацеў збегчы. Кінуўся ў ваду, на другі бераг пераплыў, а там мяне схапілі.

Мне хацелі прыпісаць удзел у арганізацыі “Чайка”.[9] Думалі, што гэта цягнецца і сюды. Але ў нас асобна было. Пыталіся пра Салаўя[10], аднаго з кіраўнікоў. Яго мой бацька ў школе вучыў... Валодзю я ў вочы не бачыў. Пасля яны яго злавілі, дапытвалі і ён звар’яцеў. Гэта мне брат Салаўя пазней расказваў... Мяне вазілі ў нейкую вёску, два дні там чакалі, паказвалі чалавека: *“Ты этого дядьку знаешь?”.* Я кажу: “Не знаю”.

На ксяндза Драгеля[11] прымушалі паказаць. Але як я мог на ксяндза паказаць?!

Быў у слонімскім МГБ такі падпалкоўнік Локцеў. Усё “псіхічныя атакі” праводзіў.

Адзін раз фотаздымкі на стол кінуў, дзе мёртвыя людзі былі... Крычаў з нагайкай у руках: *"Я тебя замолочу!... У меня за три дня сознавались, а ты четыре месяца мозги компосируешь!".* Пляваў...

У чарговы раз Локцеў прыйшоў, правёў "псіхалагічную атаку". Пісталет перазаражае на маіх вачах. *"Ты пытался убегать! На х… расстреляю сейчас и всё! Падла ты!"*, — крычаў ён. Я тады падняў лямант. Там насупраць татарын жыў. Дык я думаў, што хоць хто пачуе, што тут робіцца... Крычу... Гэта быў як рэфлекс самаабароны.

Мяне схапілі за рукі, за ногі, пацягнулі з будынка на падворак. Там, на першым паверсе былі два пакойчыкі. У адзін з іх мяне кінулі. Гляджу, а там нябожчык ляжыць... І яны яшчэ святло выключылі. Так я і сядзеў з нябожчыкам. Гэта доўжылася паўгадзіны, а можа і гадзіну-дзве.

Вось такая псіхалагічная атака... Гэта быў фініш. Мяне яшчэ патрымалі ў МГБ і а 4-й гадзіне раніцы адпусцілі дахаты. Маці сустрэла. "Сынок, — кажа, — у цябе ўсе валасы сівыя"...

Юру Татарэўскага хутчэй вызвалілі, бо ён мяне выдаў. Пасля ён скончыў вайсковую вучэльню, служыў у савецкім войску, даслужыўся да капітана. Яго ўжо няма, памёр.



Вячаслаў Сцяпура

Пасля мне яны спрабавалі сапсаваць жыццё, не давалі школу скончыць. Памятаю, як не напішу сачыненне, усё дрэнна і дрэнна. Быў у школе выдатнік Дубаў, які вучыўся ў 10-м класе (а я быў тады ў 9-м). Узяў я ў яго сачыненне (ён яго год таму пісаў), перапісаў, без ніводнай памылкі. І яшчэ ў канцы на старонку напісаў рэзюмэ і там адну коску прапусціў. Настаўніца рускай мовы Казлова піша: "*Тема совершенно не раскрыта*". Адзнака — "два"!

Я быў хлопец спартыўны, камунікабельны, карыстаўся павагай у школе. Бяру гэтыя два сачыненні (сваё і Дубава), перад усім класам паказваю настаўніцы: "Чаму тут "чатыры" пры адной граматычнай памылцы, а ў мяне "два"? Вось пачытайце, я ўсё перапісаў!".

На наступны дзень былі дзве гадзіны рускай мовы і літаратуры. Настаўніца Казлова не прыйшла. Прыходзіць сакратар камітэта камсамола і кажа: *"Пока Степура не уйдет из класса, учительница в класс не придет".* Тут мяне выклікаў дырэктар школы Букаты. Я кажу: "Што вы ад мяне хочаце? Вось два сачыненні. На адным Казлова напісала "чатыры", на другім — "два" (адна коска прапушчаная)! "Ну ты ведаеш, у мінулым годзе было адно патрабаванне, у гэтым — другое", — кажа Букаты. "Тады я гэтыя сачыненні ў міністэрства адпраўлю!", — прыгразіў я. На месца яго паставіў.

За мяне каралі бацьку і маці. Бацьку аднойчы нават затрымлівалі, дапытвалі. Ён працаваў настаўнікам у трэцяй школе, на Замосці, каля касцёла святога Андрэя. Яго выгналі з працы, сказалі: *"Ты своих детей не воспитал, а наших хочешь!".*

●Вячаслаў Сцяпура

*[1] Ёрш С. У спорце трэба быць вялікім педантам // Газета Слонімская, 1998, № 25(54), 19-25 чэрвеня.*

*[2] Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944-1956 / Даведнік. — Менск: Архіў найноўшай гісторыі, 1999. С. 40, 92, 93-94.*

*[3] Вёска ў цяперашнім Баранавіцкім раёне.*

*[4] Цяпер у межах г. Слоніма.*

*[5] Ёрш С. Януш Дыбкоўскі // Слонімскі край, 2017, № 8(18). Жнівень. С. 2. В. Сцяпура памылкова называў яго "Дэбкоўскім".*

*[6] Ганна Кароль (1902 — 1947) — дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, старшыня Шылавіцкага сельсавета. У снежні 1947-га была параненая стрэлам праз акно, памерла ў бальніцы.*

*[7] Вячаслаў Сцяпура называў сваю групу і "Польскім падпольным камітэтам", казаў, што ў той час адчуваў сябе польскім патрыётам.*

*[8] Вёска ў Слонімскім раёне.*

*[9] "Чайка" — беларуская маладзёжная канспірацыйная арганізацыя з цэнтрам у Слоніме, існавала ў 1946-1947 гадах. Большасць яе ўдзельнікаў былі арыштаваныя летам 1947 года.*

*[10] Уладзімір Салавей (1925 — 1996) — удзельнік арганізацыі "Чайка". З 1947-га знаходзіўся на нелегальным становішчы. Быў арыштаваны ў пачатку 1950-х, у выніку жорсткіх катаванняў звар'яцеў. Дзясяткі гадоў знаходзіўся ў вар'ятнях. У пачатку 1996 года яго перавялі з Гродна ў Казлоўшчынскую вар'ятню, дзе ён неўзабаве загінуў (у кастрычніку 2003-га там адбыўся пажар, згарэлі ўсе дакументы). Пахаваны на могілках у Жыровічах.*

*[11] Генрых Драгель (1889 — ?) — каталіцкі святар, служыў у Слоніме. У 1949 годзе быў асуджаны выязной сэсіяй Вярхоўнага суда БССР па артыкулах 65 і 72 КК БССР на 10 гадоў папраўча-працоўных лагероў і 5 гадоў паражэння ў правах.*

# Была такая "Бацькаўшчына"

*Працяг, пачатак на ст.1.*

колькі дзён даў згоду. Малюнак да "Бацькаўшчыны" намаляваў слонімскі мастак Рыгор Жук.

Першая старонка "Бацькаўшчыны" выйшла 7 красавіка 1990 года. У той час газета яшчэ называлася "За перамогу камунізму", але неўзабаве атрымала цяперашнюю назву. Перадрукоўваю прадмову да той дэбютнай старонкі.

"Ад прадзедаў спакон вякоў..."

У апошні час узрастае цікавасць людзей да свайго мінулага, да спадчыны сваёй Бацькаўшчыны. На старонках газет і часопісаў друкуецца шмат артыкулаў, прысвечаных гістарычным падзеям. Безумоўна, найбольшую цікавасць выклікаюць тыя, у аснову якіх леглі архіўныя дакументы, малавядомыя і зусім невядомыя факты з гісторыі раёна, вобласці, рэспублікі.

Новая гістарычная старонка "Бацькаўшчына", з першым выпускам якой сёння знаёмяцца чытачы газеты, будзе расказваць пра багатую спадчыну нашай Слонімшчыны. Таму, паважаныя чытачы, пішыце, калі ласка, нам пра знакамітых людзей, археалагічныя і архітэктурныя помнікі, пра народныя святы і абрады. Дасылайце ў рэдакцыю творы мясцовага фальклору, розныя паданні і легенды, рэдкія фотаздымкі з выявамі таленавітых і вядомых людзей, помнікаў нашага раёна...

Лепшыя і цікавыя гістарычныя матэрыялы будуць змешчаны на старонках "Бацькаўшчыны", а таксама ўключаны ў кнігу "Памяць".

Толькі дзякуючы вашай актыўнасці, шаноўныя чытачы, і будзе з'яўляцца гэтая гістарычная старонка, бо спадчына нашай Слонімшчыны засталася нам "ад прадзедаў спакон вякоў...".

Сяргей ЧЫГРЫН".

У той першай "Бацькаўшчыне" быў артыкул Васіля Супруна "Тэатр Агінскага", публікацыя Віктара Валадашчука "Млын", зацемка "Капліца святога Яна" ды рубрыка "З народнага календара". Той 42-гі нумар "раёнкі" выйшаў вялікім накладам — 18724 асобнікі. Большасць сем'яў яе выпісвалі.

"Бацькаўшчына" з'яўлялася ў "Слонімскім весніку" да 1993 года. Колькі старонак

пабачыла свет, я не падлічваў, але шмат — дзясяткі.

На гісторыка-краязнаўчай старонцы друкаваліся не толькі слонімскія аўтары, але і матэрыялы прысылалі пра Слонімшчыну з іншых рэгіёнаў Беларусі. У прыватнасці, сённяшні міністр інфармацыі Алесь Карлюкевіч у кастрычніку 1993 года даслаў цікавую гутарку з беларускім эмігрантам Анатолем Храноўскім са Слоніма, мы яе апублікавалі ў “Бацькаўшчыне”.

Пісалі для нашай старонкі і Аляксандр Жукоўскі — дырэктар школьнага музея СШ №4, Пятро Дабрыян з Азярніцы, паэт Анатоль Іверс са Слоніма, Ігар Падгарадзецкі з Жыровічаў, Васіль Супрун са Слоніма, гісторык Георгій Штыхаў з Мінска і многія іншыя.

Пятро Дабрыян распавядаў часцей за ўсё пра гісторыю вёскі Азярніца, пра людзей


Расказваюць старыя фатаграфіі

ПРАЙШОЎ ДАРОГІ ВАЙНЫ

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Нястомны змагар за народную справу

АЗЯРНІЦКІЯ КІРМАШЫ

вёскі і пра Азярніцкія кірмашы. Журналісты газеты паведамлялі пра народныя таленты Слонімшчыны, а навіны кнігарні публікаваў я. А таксама поўнасцю рыхтаваў усе нумары старонкі.

Змяшчалі мы ў “Бацькаўшчыне” і народныя песні, прымаўкі, прыказкі, прыпеўкі, запісаныя ад старых людзей. І, вядома ж, друкавалі рэдкія фотаздымкі.

Цяпер “Бацькаўшчына” у “Слонімскім весніку” не выходзіць, ды й журналісты газеты нават пра гэтую старонку не ведаюць. А шкада. Там шмат чаго можна было пачытаць з гісторыі нашай зямлі і пра лёсы яе людзей. І павучыцца, як трэба рабіць цікавую газету.

●Сяргей Чыгрын

# 70 гадоў таму на Слонімшчыне пачалася масавая калектывізацыя

*"Наеўся фуражу, задраў ногі ды ляжу, не смейцеся з мяне, бо й вас гэта не міне"*

У 1948 годзе на Слонімшчыне пачалася масавая калектывізацыя сялянскіх гаспадарак. Але першыя два калгасы з'явіліся вясной 1947 года. Гэта калгас імя Кірава Міжэвіцкага сельсавета і калгас імя Леніна Мяльканавіцкага сельсавета. За два гады створаныя калгасы, як казалі камуністычныя агітатары, мелі 4 жывёлагадоўчыя фермы, грамадскія пасекі, пасадзілі некалькі садоў.



Сяляне на рынку ў Слоніме, 1930-я гады. Здымак Язэпа Шыманчыка

У калгасе імя Леніна кожны гектар ільну даў па 6 цэнтнераў ільнасемя. За гэта семя, якое калгас здаў дзяржаве, ён атрымаў 1742 кілаграмы пшаніцы, 172 кілаграмы цукру і 5284 рублі грашыма. Што ж атрымалі калгаснікі? На працадні ім далі па 3-4 кілаграмы зернавых, 6-10 кілаграмаў бульбы.

Дарэчы, у калгас імя Леніна напачатку ўвайшлі толькі 10 чалавек. А толькі вясной 1949 года да іх далучыліся яшчэ 18 сялянскіх гаспадарак. Але вяскоўцы не хацелі ўступаць у калгасы, як і ў той самы калгас імя Леніна.

На справаздачным сходзе ў калгасе імя Леніна, які адбыўся ў канцы 1949 года, старшыня рэвізійнай камісіі нехта таварыш Л. Шынкевіч казаў: "Мы былі б багацейшымі, калі б усе працавалі сумленна і самаахвярна. Сярод нас ёсць члены сельгасарцелі, якія не выпрацавалі намечанага мінімума працадзён. Калгас такіх людзей налічвае на жаль нямала".

Пра гэта пісала і слонімская раённая газета "Вольная праца" у 1949 годзе. Сапраўды, толькі ў калгасе імя Леніна дрэнна наладжваліся справы з засыпкай насення і фуражу калгаснікамі, квола ішла падрыхтоўка да веснавой сяўбы, не адбываўся рамонт інвентару, насенне не было даведзена "да пасяўных кандыцый" і г. д. Ды і аддзел сельскай гаспадаркі Слонімскага райвыканкама слаба дапамагаў калгасам, асабліва наконт севазвароту і арганізацыі агратэхнічнай вучобы ў калгасах. А калі і бывалі супрацоўнікі райвыканкама ў калгасах, дык у ролі фатографаў, назіральнікаў і рэгістратараў. Пра гэта вяскоўцы распавядалі на ўсіх сваіх сходах.

Не ўсюды і не вельмі актыўна, але калгасы на Слонімшчыне ствараліся на працягу 1947-1950-х гадоў. Да канца верасня 1949 года ў Парэцкім, Харашэвіцкім і Шылавіцкім сельсаветах не было створана ні аднаго калгаса. Ды і ніякай камуністычнай агітацыі там не праводзілася, магчыма, камуністычныя агітатары баяліся людзей. Але ў гэты час у Акунінаўскім, Азярніцкім, Сасноўскім і Сялявіцкім сельскіх саветах усе населеныя пункты былі калектывізаваны.

Пра арганізаваныя калгасы ў Вялікай і Малой Кракотках любіў мне распавядаць наш літаратуразнавец Янка Саламевіч (1938 — 2012). Калі там арганізавалі калгасы (у Вялікай Кракотцы — у 1948 годзе, а ў Малой Кракотцы — у 1949-м), то абагульнілі коней у Вялікай Кракотцы ў Клімовічавым гумне. Кожны свайму каню на першым часе прыносіў паесці ці папіць чаго-небудзь. Гэта называлі "фураж". Пасля, як селянін убачыў, што яго абдурылі, што клопат яго нікому не патрэбны, ды і шкадаванне прайшло, перасталі карміць ужо калгасных коней. Яны пачалі здыхаць, бо работы было па горла, а кармёжка слабая. Бывала ідзеш са школы, распавядаў Янка Саламевіч, а здохлага каня ці кабылу ланцугом за шыю валакуць на выган. "Аднаго дня прыходзіць бацька ранічкай дахаты і кажа: "У Ецяўской альшыне нашлі здохлага каня. А на ім запісачка:

“Наеўся фуражу, задраў ногі ды ляжу, не смейцеся з мяне, бо й вас гэта не міне”. Было пасля і такое, рознае даводзілася бачыць, над розным задумвацца. А гэта запісачка засела ў памяці мо таму, што напісана ў рыфму. Хоць памяць чалавечая, страшэнна цікавая, часта невытлумачальная штука…”, — прыгадваў Янка Саламевіч.

Там, дзе былі на Слонімшчыне пасля вайны створаны калгасы, праблем налічвалася сотні. Сапраўдныя гаспадары зямлі, прыватнікі, іх працавітыя сем’і калгасаў не хацелі. Толькі гультаі з радасцю беглі туды. Але яны не вырашалі ніякіх важных праблем. У калгасе імя Ракасоўскага адсутнічала кармавая база, не хапала фуражу. У калгасе “Новае жыццё” Азярніцкага сельсавета людзі, што ўступілі ў калгас, не ўсё насенне туды здавалі, не хацелі аддаваць сваіх коней. У калгасе “Чырвоны партызан” дрэнна складваліся справы наконт засыпкі насеннага і фуражнага фондаў. Насенне ў першыя гады калгаснага ладу насыпалася толькі на 60%, прыкладна столькі ж і на фураж. З тых створаных калгасаў (да канца 1949 года) 15 гаспадарак не выконвалі свае планы па насенню і фуражу. А вяскоўцы Кузьміцкі, Траян, Куляшэвіч, Навумчык, Байкевіч і многія іншыя здалі па некалькі кілаграмаў для адчэпнага і ўсё. І такіх прыкладаў можна прывесці безліч. А, напрыклад, здатчыкі мясапаставак Азярніцкага і Трыбушкоўскага сельсаветаў выконвалі месячныя планы толькі на 6-10 %, Жыровіцкага сельсавета — на 20-25%. У той жа час пры аднолькавых умовах Міжэвіцкі, Сялявіцкі і Парэцкі сельскія саветы часам выконвалі месячныя планы мясанарыхтовак на 106-145%.

У заможных сялян, якія нядаўна былі гаспадарамі на сваёй уласнай зямлі, забралі ўсё: ад каня да сялянскіх гумнаў. Ліквідавалі ў іх малатарні, архі, вазы, сані, вупраж, брычкі, вагі, катлы. Многія вяскоўцы не маглі з гэтым змірыцца, перажыць, вытрымаць. У 1953 годзе ад усяго страчанага ў вёсцы Хадзявічы памерлі 12 мужчын ва ўзросце 50-55 гадоў. А яны да калектывізацыі былі самымі багатымі вяскоўцамі. У гэты год памерлі наступныя хадзяўцы:

Лаўрэн Клыбік (меў 20 гектараў зямлі)

Андрэй Рагозік (10 гектараў зямлі)

Захар Чыгрын (10 гектараў зямлі)

Міканор Рагозік (10 гектараў зямлі, таксама меў свой лес)

Аляксей Жук (15 гектараў зямлі)

Якім Юрчак (12 гектараў зямлі)

Змітрок Клыбік (14 гектараў зямлі)

Аляксей Шкляр (20 гектараў зямлі, меў і сваю краму)

Яўхім Чыгрын (15 гектараў зямлі)

Марцін Жук (10 гектараў зямлі)

Платон Клыбік (20 гектараў зямлі, меў і вялікую пасеку)

Андрэй Акулка (15 гектараў зямлі).

Хадзявец Рыгор Важэйка суткамі плакаў па сваёй прыватнай гаспадарцы. Прыходзіў да суседзяў і не мог стрымаць слёз… ад страчанага.

●Сяргей Чыгрын



З АРХІВАЎ

# Ліставанне паэта Анатоля Іверса з рэдакцыяй часопіса “Калосьсе”

З Іванам Дарафеевічам Міско (1912 — 1999) з пазнаёміўся ў 1995 годзе. Ад таго часу рэгулярна заходзіў у яго дом у Слоніме, падоўгу размаўлялі. Мяне найперш цікавілі падзеі Другой сусветнай вайны на Слонімшчыне, пра што Іван Дарафеевіч добра ведаў. Цяпер шкадую, што зусім мала цікавіўся міжваенным часам.

Памятаю, што на паліцы ў кніжнай шафе стаяў камплект віленскага беларускага часопіса “Калосьсе”, які выдаваўся ў 1935-1939 гадах. Гэта — найлепшае літаратурна-мастацкае выданне Заходняй Беларусі, каля якога гуртаваліся маладыя творчыя сілы. У тым ліку і паэт Анатоль Іверс, ён жа Іван Міско. Іван Дарафеевіч вельмі даражыў “Калосьсем”, ганарыўся, што быў сярод яго аўтараў.

Іверс упершыню надрукаваўся ў віленскім часопісе ў канцы 1937 года і ад таго часу яго вершы з’яўляліся ў кожным нумары. Такое стабільнае месца на старонках часопіса мелі хіба толькі Максім Танк і Міхась Машара. Гэта паказвае, што рэдакцыя цаніла талент паэта са Слонімшчыны, старалася яго падтрымаць. Агулам былі надрукаваныя 19 вершаў.



Слонім, 19.VII.
51

Паважаная Рэдакцыя!

Сучаснае жыцьцё беларускае вёскі шмат розьніцца ад папярэдняга з прычыны адсутнасьці беларускіх культ.-асьветных арганізацый і беларускае прэсы. А нам трэба кніжкі, нам трэба газэты! Тады мы шпарэй пойдзем наперад у кірунку нац.-вызв. руху.

Усё гэта ведаючы і спачуваючы (я прыпадкова даведаўся, што ў Вільні выходзіць „Калосьсе") зьвярочваюся з просьбаю да Пав. Рэдакцыі выслаць мне пару пробных нумароў Вашае часопісі „Калосьсе"; то па магчымасьці першых.

З свайго боку, як азнаёмлюся з часопісьсю і як спадабаецца, абяцаю выслаць падпісную плату і па магчымасьці супрацоўнічаць.

З пашанай - [illegible]

У архіўных зборах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі ў Мінску аўтару гэтых радкоў удалося перагледзець справу з вершамі і лістамі Анатоля Іверса ў рэдакцыю “Калосься”. Яе сфармавалі ў 1984 годзе і да 2018-га ніхто ў папку не зазіраў! Яшчэ адзін ліст слонімскага паэта ў “Калосьсе” (праз беларускую кнігарню ў Вільні) адшукаў у іншай архіўнай справе з ліставаннем аўтараў і чытачоў па пытанні падпіскі. Менавіта з яго і пачнем. Ліст ад снежня 1935-га напісаны на паштоўцы. У ім Іван Дарафеевіч прызнаецца, што выпадкова даведаўся пра існаванне “Калосься”, просіць даслаць некалькі першых нумароў (што і было выканана), коратка, але трапна апісвае сітуацыю беларускага руху на вёсцы. Толькі адрасныя дадзеныя на ёй былі напісаныя па-польску, астатні тэкст — па-беларуску.

*Міско Іван с[ын] Дарафея в[ёска] і гм[іна] Чамяры пав[ет] Слонім*

*Прашу перадаць гэтую*

*паштоўку ў рэд[акцыю] “Калосься”, за што застаюся вельмі ўдзячны.*
*І. Міско*

Слонім, 19.XII.[1935]
Паважаная Рэдакцыя!
Сучаснае жыцьцё беларускае вёскі шмат розьніцца ад папярэдняга з прычыны адсутнасьці беларускіх культ[урна]-асьветных арганізацыяў і беларускае прэсы. А нам трэба кніжкі, нам трэба газэты! Тады мы шпарчэй пойдзем наперад у кірунку нац[ыянальна-] вызв[ольнага] руху.
Усё гэта ведаючы і адчуваючы (я прыпадкова даведаўся, што ў Вільні выходзяць “Калосься”) [,] зварочваюся з просьбаю да Пав[ажанай] Рэд[акцыі] выслаць мне пару пробных нумароў Вашае часопісі “Калосься” і то па магчымасьці першых. З свайго боку, як азнаёмлюся з часопісьсю і як спадабаецца, абяцаю прыслаць падпісную плату і па магчымасьці супрацоўнічаць.
З пашанай
І. Міско

Далей быў працяглы


Іван Дарафеевіч Міско (Анатоль Іверс)

перапынак у кантактах Анатоля Іверса з рэдакцыяй. У 1936 годзе ён крыху друкаваўся ў віленскім часопісе “Шлях моладзі”. У іншай архіўнай папцы на вузкім аркушыку з вершамі знайшоўся кароткі ліст, ці хутчэй запісачка паэта:

Хацелася б мець лучнасьць з “Калосьсем” і з усімі беларуск[імі] часапісамі, але цяжкія варункі абмежваюць маю прадукцыю і не дазваляюць рабіць выдаткі. З свайго боку буду старацца ўсё паканаць і раз навязанай лучнасьці з “Кал[осьсем]” не парываць.
Анатоль Івэрс
12.X.37.


TELEFON MIĘDZYMIASTOWY LICZBA ODLEGŁOŚCI
KARTKA POCZTOWA
POCZTA POLSKA
Misko Jan s. Dorofieja
NADAWCA:
w. gm. Ozemery
pow. Słonim
Прашу прыслаць за-
пытаю паштоўку ў рэд.
„Калосься", за што
застаюся вельмі
ўдзячны. І. Міс
Księgarnia Biało-
ruska
Wilno
Ostrobramska 2.

Верш “На далёкіх курганах” з гэтага ж аркушыка быў аператыўна надрукаваны ў “Калосьсі”, у чацвёртай кніжцы (нумары) за той год. А вось іншы верш “Золата восені” рэдакцыя не публікавала. А яго Іверс прысвяціў беларускай паэтцы Наталлі Арсенневай (у 1920-я яна жыла ў нашым горадзе), з творчасцю якой пазнаёміўся ў беларускім друку, у тым ліку і ў “Калосьсі”. Гэта будзе першая публікацыя верша.

### Золата восені

*Прысьв[ячаю] Н. Арсеньневай*

Чырвоным золатам зара,
Лягла на золата асінаў
І павуцінаю зараз
Пасерабрылася краіна.

І ўсьмешкай спозьненаю стрэх
Застылі вёскі ў небасхіле.
Ніхто тых думак не сатрэ,
Што галаву на грудзі хіляць…

Не казкай сьцелюцца лісты
На адцьвітаючым пахмельлі,
Не вецер ў туманох густых
Зару румяную кудзеліць.

То — палыновае быльлё
Шуміць аб доўгім перадноўку —
І павуціньне нібы лён
На ім павісла белым шоўкам.

Якой дарогаю пайсьці
З бяды галодным караванам?
А восень — золатам шасьціць,
А восень — сьцелецца дыванам.

# Ліставанне паэта Анатоля Іверса з рэдакцыяй часопіса “Калосьсе”

*Працяг, пачатак на ст.10-11.*

Рэдактары часопіса былі проста збянтэжаныя гэтым вершам. Яны падкрэслілі некаторыя радкі і пакінулі свае каментары. У адны з іх чытаем: “Верш, як цэласьць, з прысьвячэньнем яго Н. Арсеньневай, робіць уражаньне верша іранічнага… гэта нібы пародыя творчасьці Арсеньневай”. Ёсць заўвага, што аўтар нейкае слова ўставіў проста “дзеля рыфмы”. “Адцьвітаючым пахмельлі” назвалі няўдалай метафарай. “За кожнае слова ў вершы трэба быць адказным!” — чытаем на тым аркушыку. Пры гэтым пазначана, што “тэхніка вершаваная добрая”.

На жаль, невядома, ці была ў Анатоля Іверса ад пачатку мэта напісаць пародыю, ці проста атрымаўся такі двухсэнсоўны верш.

Не ўсе рукапісы твораў паэта, якія ў 1938 годзе з’яўляліся на старонках часопіса, знайшліся ў архіўных зборах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа. А значыць, як мінімум, адзін суправаджальны да вершаў ліст Іверса застаецца нам невядомым. Змяшчаем тут ліст паэта, які ён даслаў разам з некалькімі вершамі ў “Калосьсе” ў канцы 1938 года.

9.XII – 38 г.

Паважаны грамадзянін!

Шчыра дзякую за прысланае “Назустріч”*, але нажаль так сталася, што я атрымаў вельмі позна ды ў дадатак разарваным. Але мог бы адказаць раней, каб не выбары ў вясковы самаўрад. Вось гэтыя выбары забралі шмат часу і нічога з іх ня вышла. Нашая ліста была № 1. На падставе арт. 24 у выбарнай Камісіі ўсе 40 чалавек зьявіліся і сказалі, што яны добравольна падпісалі дэкларацыі. Аднак камісія 4-х выкрасьліла зусім, а 13 подпісаў трэба было нясьці да натарыуса, каб сьцьвердзіў іх уласнаручнасьць. Кароткі тэрмін і сьвяточны дзень... Уся праца, усе бязсонныя ночы мінуліся, але людзі не могуць супакоіцца — будуць пісаць пратэст. Ліста № 2 — асаднікі, Państwowe Szkoła Rolnica w Grzybowie, вучыцель пачатковае школы і ўсе нашыя падхлебнікі. — Камісія подпісаў не бадала.** Клікалі нас на вельмі ганебную ўгоду, каб стварыць адну лісту. На сходзе не далі гаварыць.***

Просіце, каб напісаў словы ацэны бел[арускага] матэр’ялу ў “Назустріч” і “Калосьсяў”. Пакуль што ўстрымліваюся. Зазначу, што з Вашым матэр’ялам у ва ўсіх часапісах пра Усх. Беларусь ніхто ў нас не згаджаецца. Коратка пра “Калосьсе”: часапісь з вонкавага выгляду і з парадку укладаньня матэр’ялу — добры… Толькі як-бы (а мо’ і запраўды) існуе напружанасьць паміж паэтамі і крытыкамі. Абшырней можа калі другім разам.

У кастрычніку быў у войску.**** Час таксама мінуў амаль бязсьледна. Чакаю магчымасьці пабываць у Вільні, бо прычына ёсьць[,] толькі няма грошай.

З прывітаньнем А. Івэрс

P. S!

Паважаны Грамадзянін Рэдактар!

Не адмоўце зложыць падзяку ад майго імені ў рэдакцыі “Шляху Моладзі”***** за прысланую брашуру “Выбарная арыноцыя ў самаўрад”. Прыслана была ў час. — А. Івэрс.



**На далёкіх курганох**

Зорныя сыгналы —
яркія агні —
недзе заігралі
ў сіняй шырыні.

Нехта выліў звонка
песьню на траву —
там сасна з сасонкай
хіляць галаву.

І на тых курганах
будуць кветкі ныць,
будуць кожны ранак
гнуцца палыны.

Хіба сонца з косаў
вытча палатно —
на зялёных росах
гурбу дываноў.

Ды на родных гонях
зашуміць быльлё,
ў шэрым пеpазвоне,
што за волю лёг.

*Анатоль Івэрс*

246

**Украінскі часопіс літаратуры і мастацтваў, выходзіў у Львове ў 1934-1938 гадах.*

***Не вывучала, не даследавала.*

****І. Міско пісаў: ”Літаральна за пару дзён з Іванам Герасімавічам Міско сабраў у вёсцы і на хутарах патрэбную колькасць подпісаў пад спісам кандыдатаў у гмінны*

*самаўрад. І хоць наш спіс падалі першым, улады адмовіліся яго рэгістраваць: маўляў, подпісы маглі быць падробленымі, бо не завераныя натарыусам” (Анатоль Іверс. Мой жыццяпіс // Жыццё і творчасць Анатоля Іверса: успаміны, згадкі, рэцэнзіі, прысвячэнні, пісьмы, фотаздымкі. Укладальнік С. Чыгрын. — Мінск: Кнігазбор, 2012. С. 7).*

*****Іван Міско ўспамінаў, што праходзіў вайсковыя зборы ў 27-м палку уланаў ў Баранавічах. Гл.: Жыццё і творчасць Анатоля Іверса… С. 88.*

****** Папулярны заходнебеларускі маладзёжны часопіс, выходзіў у Вільні ў 1929-1939 гадах.*




Сярод твораў паэта апублікаваных у 1938-м, быў верш “На бруку”. У рукапісе ён называўся “На баранавіцкім бруку”, але слова “баранавіцкім” перакрэслена. Не была апублікаваная апошняя страфа і подпіс:

*“Вецярок — і я чую сьвітаньне,*
*Дзе вартуе зару чалавек…*
*А ўжо сонца разбуджаны танец*
*Недзе плёскае ў сіняй Няве.*

Баранавічы, кастрычнік 1938”.

Значыць, гэты верш быў напісаны Анатолем Іверсам падчас вайсковых збораў. А ў апублікаваным вершы “Залацілася раніца” няма наступнай страфы з прарочымі словамі:

*“Гэта ты, Беларусь, сьмела некалі глянеш чым*
*ды не сумам васеньнім дарог і асін —*
*пабягуць цягнікі па балотах-тарфянішчах,*
*а прапэлеры скосяць блакітную сінь”.*

Вершы Анатоля Іверса з’явіліся і ў трох апошніх нумарах часопіса ў 1939 годзе.

*“Пацягну я смыкам*
*па сталёвых жылах —*
*ды каб*
*хмелем дзікім*
*песьня закружыла!”*

(“Звоняць дні…”)

Рэдакцыя часопіса “Калосьсе” дапамагла Анатолю Іверсу выдаць у 1939 годзе першы зборнік вершаў.

●Сяргей Ёрш



# Аляксандр Гваньіні пра Слонім у другой палове XVI стагоддзя

Італьянец Аляксандр Гваньіні (1538 — 1614) пераехаў у Рэч Паспалітую яшчэ маладым чалавекам. На ўсходзе і поўначы ішлі войны з Маскоўскай дзяржавай і замежнік прыняў у іх самы непасрэдны ўдзел. Ён з перапынкам служыў у войску ВКЛ, бо яшчэ паспеў у 1560-х паўдзельнічаць у Скандынаўскай сямігадовай вайне. Пасля яе заканчэння прыняў падданства Рэчы Паспалітай, працягваў служыць на тэрыторыі цяперашняй Беларусі, доўгі час быў ваенным камендантам Віцебска.

Гваньіні быў чалавекам адукаваным, ведаў некалькі моваў. Падчас паездак па ВКЛ, відаць, рабіў запісы. З часам ён напісаў кнігу, якая стала вельмі папулярнай. Упершыню “Апісанне Еўрапейскай Сарматыі” (Sarmatiae europeae description) выйшла ў Кракаве ў 1578 годзе на латыні.

Нас найперш цікавіць, што ж Аляксандр Гваньіні напісаў пра Слонім. Тэкст невялічкі — усяго два сказы. Але даводзілася сустракаць іх пераклады, якія маюць істотныя адрозненні. У адным з іх згадваецца “драўляная агароджа”, якая нібыта была вакол Слоніма, а гэта не так. Тут прапануем, як нам падаецца, самы слушны варыянт перакладу.



Аляксандр Гваньіні

*Slonim ciuitas et munitio lignea, olim secundo genitorum Magnorum Ducum Lithwaniae erat, et pro Ducatu cum suo territorio computabatur, postea in prouinciam redacta est. Vexillo rubeo vnicorne Stemmate Magni ducatus insignio prouincialis nobilitas vtitur.*

*Слонім драўляны горад і ўмацаванне, некалі спрычыніўся да паспяховага ўзнікнення Вялікага княства Літоўскага і на карысць княства далучыўся сваёй тэрыторыяй, пазней быў ператвораны у павет. З чырвонай, аднарогай харугвы з гербам Вялікага княства карыстаецца павятовая шляхта.*

Гваньіні не згадвае замак у Слоніме. На Замосці драўляны замак быў спалены ў пачатку XVI стагоддзя і ўжо не аднаўляўся. Пасля таго да 1520-га драўляны замак быў узведзены на іншым баку Шчары, на цяперашнім Замчышчы. Але, відаць, выгляд яго быў сціплым, вось аўтар “Апісання…” і згадвае толькі “ўмацаванне”. З іншага боку ў тэксце пра Наваградскае ваяводства не згадваюцца замкі таксама ў Навагрудку і Ваўкавыску, толькі ў абзацы пра Мсцібаў ёсць і драўляны замак, і ўмацаванне. Піша Аляксандр Гваньіні і пра “шматлікія ўмацаванні шляхціцаў”, у тым ліку і ў Слонімскім павеце.

●Сяргей Ёрш




NOVOGRODENSI

Ouogrodek Ciuitas amplali
Lithuaniæ attributa erat, nu
corne rubei coloris Stemmat
in bello gestat. Districtus duo
plectitur.
SLONIM ciuitas & munitio ligne
cum Lithuaniæ erat, & pro Ducatu cum
uinciam redacta est. Vexillo rubeo vnicor
uincialis nobilitas vtitur.
WOLKOVISKO Ciuitas amp
disceptantur. Vexillum quoq; rubeum Sl
MSCZIBOW Opidum & arx ligne
cumdante, à Wolkowisko 2. mil.
Oppida plurima hic Nouogrodensis ta
bus prædictis complectitur.


MAGNI DVCATVS LITVA-
NIAE CVM SVIS DVCIBVS, PRO
VINCIIS, PALATINATIBVS, CIVITATIBVS.

ARMA MAGNI DVCATVS LITVANIAE.

SARMATIAE EVROPEÆ DESCRIPTIO, QVAE REGNVM POLONIAE, LITVANIAM, SAMOGITIAM, RVSSIAM, MASSOVIAM, PRVSSIAM, POMERANIAM, LIVONIAM, ET MOSCHOVIAE, TARTARIAEQVE partem complectitur.

ALEXANDRI GVAGNINI Veronensis, Equitis Aurati, peditumque præfecti.

Cui supplementi loco, ea quæ gesta sunt superiori anno, inter Serenissimum Regem Poloniæ, & Magnum Ducem Moschoviae breuiter adiecta sunt. Item Genealogia Regum Polonorum.

B·D·

SPIRÆ.

CVM PRIVILEGIO IMPER. ET REGIS GALL.

APVD BERNARDVM ALBINVM.

M. D. LXXXI.

## Слонімская харугва

У музеі польскага войска ў Варшаве зберагаецца харугва паспалітага рушання Слонімскага павета. Мяркуецца, што яна была выраблена ў другое дзесяцігоддзе XVII стагоддзя. Харугва аднабаковая, яе памеры складаюць 175 см на 325 см. Вакол герба “Пагоня” надпіс на латыні: Жыгімонт III з Божай ласкі кароль Польскі, Вялікі Князь Літоўскі. Ёсць пазнака, што харугва была рэканструяваная ў 1747 годзе. Атрымліваецца, што Аляксандр Гваньіні мог бачыць папярэднюю слонімскую харугву. Яна была падобная і па форме і па колеры. Адзінае адрозненне — на ёй альбо былі іншыя надпісы, альбо іх не было, за выключэннем слова “Слонімская”.






СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Як пілі піва ў Слоніме 100 гадоў таму

У лістападзе на інтэрнэт-аукцыёне на сайце ebay.com з’явіліся тры здымкі, зробленыя ў Слоніме верагодна ў 1917 годзе. На іх бачым групу нямецкіх вайскоўцаў каля прыватнага драўлянага дома. На двух з іх яны зняліся з куфлямі піва ў руках. Нібы дэманструюць, што ў іх усё выдатна — у тыле яны весела бавяць вольны час, а вайна дзесьці далёка.

Цікава было б даведацца, хто ў той час у горадзе займаўся вырабам і продажам піва. Слонімцы пілі і п’юць яго з сівой мінуўшчыны. Відаць, і гатункі свае былі, і папулярныя бровары, і выдатныя спецыялісты. Нядаўна мы пісалі пра тое, як варылі піва ў Азярніцкім маёнтку на Слонімшчыне ў сярэдзіне XVI стагоддзя*, ці як у 1678 годзе ў Шылавічах бочку слонімскага піва выпіла пасольства Рэчы Паспалітай**. Але войны і пажары рабілі сваю чорную справу — перарывалася традыцыя, забываліся рэцэпты.

Што да здымкаў, дык іх правільна будзе назваць паштоўкамі — на адваротным баку на ўсіх іх зроблены аднолькавыя лінейкі для напісання адрасоў і тэксту. І кожны з вайскоўцаў, прысутных на здымку, мог адправіць на радзіму такую паштоўку, парадаваць сваіх блізкіх.

●Генадзь Гурскі

*Шуляк М. Побыт панскага маёнтка Азярніца ў сярэдзіне XVI стагоддзя // Слонімскі край, 2018, № 5(27). Травень. С. 16.

**Падарожнікі распавядаюць пра Слонімшчыну ў другой палове XVII стагоддзя // Слонімскі край, 2018, № 10. Кастрычнік. С. 5.







Фота: ebay.com

# Слонім у руінах




Нямецкія вайскоўцы падчас Першай сусветнай вайны выпусцілі дзясяткі паштовак са здымкамі Замосця ў Слоніме, якое ляжала ў руінах пасля баёў 1915 года. Ёсць паштоўкі і з малюнкамі. Адна такая нядаўна прадавалася на інтэрнэт-аукцыёне. "Слонім, Руіны" — напісана па-нямецку і па-польску. На пярэднім плане бачым абпаленае дрэва, далей — астаткі цагляных будынкаў, завадская труба. І поўная адсутнасць людзей. Пройдзе некалькі гадоў і Замосце адбудуецца, зноў ажыве.

●Генадзь Гурскі

АСОБА

# Ігнат Дварчанін ад Стэфана Рыбі

Польскі мастак з Беластока Стэфан Рыбі — добры сябра беларусаў, якія жывуць на Беласточчыне. Ён часта бывае ў рэдакцыі беларускага тыднёвіка "Ніва", шмат гадоў малюе для рэдакцыі розныя малюнкі, прымае ўдзел у афармленні кніг беларускіх літаратараў з Польшчы, а таксама беларускіх календароў.

Гадоў трыццаць таму Стэфан Рыбі намаляваў партрэт заходнедебеларус-кага грамадскага дзеяча, пісьменніка, вучонага Ігната Дварчаніна (1895 — 1937), які быў родам з вёскі Погіры былога Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскі раён). Яго публікую ў гэтым нумары "СК".

У 1912-1915 гадах Дварчанін працаваў настаўнікам у вёсцы Хмяльніца Слонімскага павета. У 1928 годзе ён выбіраўся паслом у польскі Сейм. Ігнат Дварчанін скончыў універсітэт у Празе, абараніў доктарскую дысертацыю па творчасці Францыска Скарыны. Склаў "Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры ад 1905 года" (Вільня, 1927), пісаў вершы. У 1933 годзе ў БССР Дварчаніна



рэпрэсіравалі савецкія ўлады, а 8 снежня 1937 года расстралялі.

●Сяргей Чыгрын

СЛОНІМСКІЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

# Што пісалі нашы землякі 90 гадоў таму ў віленскую беларускую прэсу

Праца Гурткоў Т[аварыст]ва Беларускае Школы

Вёска Баравікі, Жыравіцкай воласці, Слонімскага павета. 18.III.28 г. у вёсцы Баравікі Г[урт]ком Т[аварыст]ва Бел[арускай] Школы быў наладжаны спектакль. На сцэне адыгралі п'есы: "Страхі жыцця" і "Боты". Артысты выканалі свае ролі добра, нягледзячы на тое, што першы раз былі на сцэне. Тым жа Гуртком у в. Падмош[ш]ы 22.IV.28 г. быў наладжаны другі спектакль. Адыграны былі п'есы: "Збянтэжаны Саўка" і "Боты".

Артысты выканалі свае ролі вельмі добра і глядзельнікі задаволіліся іх гульнёй.

***

Слонімская Акружная Управа [ТБШ] шчыра дзякуе Юхноўскаму Г[урт]ку Т[аварыст]ва за ахвяру ў суме 27 зл[отых] 50[грошаў] на карысць беларускіх гімназій.

***

Слонімская Акружная Управа звяртаецца да ўсіх паўнамоцнікаў (упаўнаважаных прадстаўнікоў — СК), здаўшых Школьнаму Інспектару дэкларацыі на ўрадовую (дзяржаўную — СК) беларускую школу, у як найхутчэйшым часе перасланы у Акружную Управу копіі спіскаў з пададзеных дэкларацый, калі такія да гэтага часу не перасланы.

Адначасна просім паведамляць Акружную ўправу, як праводзіліся баданні (праверкі, даследаванні — СК) зложаных дэкларацый і якія яны далі вынікі.

Слонімская Акружная Управа
Слонім, Ражанская 55.

***

Грамадзяне! Памажэце пагарэльцам!

Вёска Скіпоравічы Казлоўскае (Казлоўшчынскай, цяпер Дзятлаўскі раён — СК) перад святамі, а вёска Акунінава Дзявяткаўскае воласці ўжо пасля свят знішчаны пажарам. Пажары былі такія страшаныя, што нават ёсць і людскія ахвяры.

Дык грамадзяне, памажэце сваім няшчасным братам! Не дайце іх дзеткам распаўзціся з торбамі па свеце! Складайце ахвяры, хто чым можа, і адвозьце пацярпеўшым. Гурткі Т[аварыст]ва павінны ў найбліжэйшым часе паставіць па адным спектаклю на карысць пагарэльцаў, даход ад якога можна перасланы і праз Акружную Управу.

Слонімская Акружная Управа
Слонім,
Ражанская 55.

*Голас працы, 1928, № 11, 19 траўня.*

Спіць наша моладзь

(Вёска Прыхілы, Слонімскага павета)

Радасць і надзея ўздымаецца ў чалавека, калі прыгледзімся, як гурток Т[аварыст]ва [беларускай школы] ў Масілавічах пашырае асвету сярод старых і малых, залажыўшы (заснаваўшы, арганізаваўшы — СК) бібліятэку і ладзячы спектаклі.

Чэсць барацьбітам з цемрай!

Не тое ў вёсцы Прыхілах і Трыбушках (цяпер яна называецца Мірная — СК). Там моладзь нечака чакае; чакае таго, што само ніколі не прыходзіць. Пара, браткі, вырвацца з рук цемры, змагацца за лепшае жыццё працоўных! Пара залажыць Гурток Т[аварыст]ва Бел[арускай] Школы.

Блізкі

*Зара працы, 1928, № 8, 27 чэрвеня.*

Праца нашай вёскі

(В[ёска] В. Кракотка, Слонімскага пав.)

Гурток Т[аварыст]ва Бел[арускай] Школы, які залажыўся досыць ужо даўно, вельмі шмат прычыніўся да прасветы нашага пад'ярэмна-сялянскага жыцця.

Пастаўлена ўжо шмат спектакляў, аб якіх своечасна пісалася.

Залажылі бібліятэку-чытальню, для якой спярша адрамантавалі пустую, старую хату. Яна была не адпаведная для гэтага, бо была цёмная і сырая, але, калі матэр'яльны стан бібліятэкі-чытальні паправіўся, здабылі на лепшы будынак. Сюды прыходзяць хлапцы, дзяўчаты, малышы і старыя, чытаюць і слухаюць, як хто чытае.

Усё ж у нашай вёсцы хоць адзінкі, але ёсць такія асобы якія выракаюцца ўсяго роднага. Пара было б ім кінуць гэта і прылучыцца да другіх, каб разам працаваць для асветы працоўных мас.

Салавейка

*Сцяг працы, 1928, № 7, 25 ліпеня.*

# 20 гадоў гістарычнай перамозе

СПОРТ

Слонімская Газета 24 — 30 верасня 1998г., № 39 (68)

ФУТБОЛ — вышэйшая ліга

## ВАЖНАЯ ПЕРАМОГА

Камунальнік (Слонім) — Дынама (Мінск) — 1:0

Слонім. 19 верасня. Стадыён "Юнацтва". 3500 гледачоў.

Суддзя Іван Майраў (нк, Віцебск).

ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА

ПАСЛЯ 25-га ТУРА

| | | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Днепр-Трансмаш (Магілёў) | 24 | 20 | 2 | 2 | 51-10 | 62 |
| 2. | БАТЭ (Барысаў) | 23 | 15 | 3 | 5 | 44-21 | 48 |
| 3. | Белшына (Бабруйск) | 23 | 13 | 5 | 5 | 36-18 | 44 |
| 4. | Гомель | 23 | 10 | 8 | 5 | 29-22 | 38 |
| 5. | Лакаматыў-96 (Віцебск) | 23 | 11 | 4 | 8 | 29-23 | 37 |
| 6. | Славія (Мазыр) | 23 | 9 | 9 | 5 | 31-27 | 36 |
| 7. | Дынама (Брэст) | 23 | 11 | 1 | 11 | 36-31 | 34 |
| 8. | Тарпеда (Мінск) | 23 | 9 | 7 | 7 | 33-21 | 34 |
| 9. | Дынама (Мінск) | 22 | 9 | 4 | 9 | 27-29 | 31 |
| 10. | Нёман (Гродна) | 23 | 7 | 7 | 9 | 20-30 | 28 |
| 11. | Тарпеда-Кадзіна (Магілёў) | 23 | 7 | 6 | 10 | 26-30 | 27 |
| 12. | Шахцёр (Салігорск) | 23 | 7 | 6 | 10 | 26-42 | 27 |
| 13. | Нафтан-Дэвон (Наваполацк) | 24 | 4 | 4 | 15 | 22-41 | 16 |
| 14. | Камунальнік (Слонім) | 24 | 3 | 5 | 16 | 13-51 | 14 |
| 15. | Маладзечна | 24 | 2 | 3 | 19 | 18-49 | 9 |

СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98

ВЫНІКІ АСТАТНІХ МАТЧАЎ ТУРА:

СЕНСАЦИЯ

## ШАПИРО "УШЛИ". КТО СЛЕДУЮЩИЙ?

Как стало известно "ГС", во вторник, 29 октября, по решению совета футбольного клуба "Коммунальник" от должности главного тренера команды освобожден Яков Шапиро.

Временно исполнять обязанности гл. тренера будет Алексей Шубенок.

Подробности о смене в руководстве футбольного клуба на финише чемпионата читайте в следующем номере.

Яков Шапиро (слева), Олег Лисогорович, Мечислав Балуда

ФУТБОЛ — вышэйшая ліга

## ЗНОЎ У ПЕРШУЮ ЛІГУ

Тарпеда (Мінск) — Камунальнік (Слонім) — 6:0

Мінск. 31 кастрычніка. Стадыён "Тарпеда". 1000 гледачоў. Суддзя У.Сухавараў (нк, Орша).

ВЫНІКОВАЯ ТАБЛІЦА

19 верасня 1998 года слонімскі "Камунальнік" атрымаў гістарычную перамогу над мінскім "Дынама" — 1:0. Адзіны гол у канцы першага тайма забіў Георгій Татарашвілі. Сведкамі гэтай падзеі на стадыёне "Юнацтва" былі 3500 чалавек.

Мінскае "Дынама" тады губляла статус флагмана беларускага футболу, ішло ў сярэдзіне турнірнай табліцы. Тым не менш перамога была прыемнай. Але яна аказалася і піравай. У наступных чатырох матчах чэмпіянату "Камунальнік" не набраў ніводнага ачка, апусціўся на апошняе месца і развітаўся з вышэйшай лігай.

Варта згадаць, што галоўным трэнерам "Камунальніка" тады быў Якаў Шапіра, якога ўжо даўно няма сярод нас. Праз 10 дзён кіраўніцтва клуба яго вызваліла ад пасады. ●СЁ

ХРОНІКА

## Альфрэд Слізень




Восенню 2018-га ў Новадзевяткавічы з Польшчы прыязджаў з дачкой і ўнукамі 91-гадовы Альфрэд Слізень, сын апошняга ўладальніка маёнтка. Слізні развіталіся з ім у верасні 1939 года пасля таго, як жылі ў гэтых мясцінах каля 250 гадоў. Радзівілы, Сапегі пачалі прыязджаць на радзіму яшчэ ў 1990-я, а вось візіт Слізняў моцна затрымаўся.

# Малюнак гандлёвых радоў у Слоніме




На адным з інтэрнэт-аукцыёнаў восенню 2018-га з'явілася яшчэ адна слонімская паштоўка часоў Першай сусветнай вайны. На ёй бачым малюнак гандлёвых радоў, якія да 1944 года знаходзіліся на месцы цяперашняга сквера па Першамайскай вуліцы. Надпісы выкананы па-нямецку і па-польску.

На сённяшні дзень вядома каля дзясятка паштовак стогадовай даўніны з выявамі гандлёвых радоў. Гэта было адно з самых ажыўленых месцаў у горадзе. Такі своеасаблівы тагачасны "супермаркет", дзе можна было купіць практычна ўсё. Вяскоўцы, якія прыязджалі ў горад, "падарожнічалі" па шматлікіх крамках, набываючы неабходныя рэчы, прадукты. Для іх гэта быў традыцыйны "шопінг". Шкада, але вайна ўсё зруйнавала.

●Генадзь Гурскі

ХРОНІКА

## "Белпошта" выдасць марку, прысвечаную Слоніму

На 2019 год "Белпошта" запланавала выхад маркі, прысвечанай Слоніму. Пакуль невядома, якая выява будзе на ёй. 15 гадоў таму на слонімскай марцы быў герб нашага горада.

На афіцыйным сайце "Белпошты" пазначана, што марка з'явіцца ў абароце ў ліпені наступнага года. Яе наклад яшчэ ўдакладняецца.

●ГГ

Усе нумары "Слонімскага краю", якія выйшлі на працягу 2016-2018 гадоў, можна знайсці на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі "Камунікат" : http://kamunikat.org/

"Слонімскі край" — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару Сяргей Ёрш.

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.